**Гродна**
№23 (458),
18 снежня 2016
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Калядныя звычаі ў розных краінах

**Традыцыя святкавання Божага Нараджэння глыбока паважаная ва ўсім свеце. Аднак у кожнай мясцовасці існуюць адметныя абрады і звычаі. У Беларусі гэта спатканне з сям'ёй пры вігілійным стале, дзе абавязковы аплатка і 12 страў, узаемныя віншаванні, супольны спеў калядак, а апоўначы – удзел у св. Імшы Пастэрцы. А як Божае Нараджэнне адзначаецца ў іншых краінах?**

● працяг на с. 3

## Каляндар падзей

*24 снежня*
Вігілія Божага Нараджэння.
*25 снежня*
Урачыстасць Божага Нараджэння.
*26 снежня*
Свята св. Стэфана, дыякана і мучаніка. Бласлаўленне аўса.
*27 снежня*
Успамін св. апостала Яна, Евангеліста. Бласлаўленне віна.
*28 снежня*
Свята святых Немаўлят, мучанікаў.
*30 снежня*
Свята Святой Сям'і. Молімся аб хрысціянскім жыцці і святасці ў сем'ях.
*1 студзеня*
Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.
Сусветны дзень малітвы аб супакоі ў свеце.

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Снежань*
Аб новых і святых пакліканнях да святарскага, манаскага і місіянерскага жыцця з Гродзенскай дыяцэзіі.
Аб мужнасці для выбраных ісці за голасам паклікання і аб ласцы трываласці ў служэбе Богу і людзям.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
Разважанні над Божым словам.
Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё
кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM,
у Свіслачы на 100.8 FM.

*"Сімвал веры"*
Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі.
Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".
**Чарговы выпуск – 7 лютага 19.45, паўтор – 8 лютага ў 9.00.**

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы.
Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі;
на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім;
у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;
у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.
У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

**"З нараджэннем Езуса ў Бэтлееме сам Бог пасяліўся сярод нас". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IV НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ
**Мц 1, 18–24**

Такім было нараджэнне Езуса Хрыста: пасля заручын Маці Ягонай Марыі з Юзафам, перш чым пачалі жыць разам, яна зачала ад Духа Святога. Юзаф жа, муж Яе, будучы справядлівым і не хочучы зняславіць Яе, хацеў патаемна адпусціць Яе. Калі ён надумаў гэта, вось анёл Пана з'явіўся яму ў сне і сказаў: "Юзэфе, сыне Давіда! Не бойся прыняць Марыю, жонку тваю, бо тое, што нарадзілася ў Ёй, ёсць ад Духа Святога. Яна ж народзіць Сына, і дасі Яму імя Езус, бо Ён збавіць народ свой ад ягоных грахоў". А ўсё гэта сталася, каб збылося сказанае Панам праз прарока, які кажа: "Вось Дзева зачне і народзіць Сына, і дадуць Яму імя Эммануэль, што азначае «з намі Бог»". Абудзіўшыся ад сну, Юзаф зрабіў, як загадаў яму анёл Пана, і прыняў жонку сваю.

### ЭММАНУЭЛЬ – БОГ З НАМІ

Прадказаны прарокам Ісаем Эммануэль прыходзіць у свет, каб мы сталі сапраўднымі Божымі дзецьмі. Ён нараджаецца сярод людзей, прыняўшы чалавечую натуру і стаўшы адным з нас. Прыходзіць не як валадар, аўтарытэт, кароль, не акружае сябе прыдворнымі, світай, гвардыяй, не адгароджваецца мурам, калючым дротам і легіёнамі ахоўнікаў, не ездзіць на браніраваным аўтамабілі. "Не ломіць надломленай трысціны і не гасіць тлеючана кноту" (параўн. Іс 42, 3). Ён аб'яўляецца як дзіця, у хлеўчыку, сярод хатніх жывёл, у беднасці і прастаце: убогае і пазбаўленае ўсіх правоў і атрыбутаў боскасці, каб быць разам з чалавекам, а не супраць яго.

Бог з самага пачатку знаходзіцца побач з людзьмі, шукаючы іх і спрабуючы прывесці да сябе. Дык чаму многія адыходзяць, абвінавачваючы Яго ў тым, што з'яўляецца "далёкім", "патрабавальным"? Чалавек XXI стагоддзя, чаму табе так цяжка паверыць, што Бог сапраўды на тваім баку?

### БОЖАЕ НАРАДЖЭННЕ
**Ян 1, 1–18**

На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў Бога спрадвеку. Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не сталася з таго, што сталася. У Ім было жыццё, і жыццё было святлом людзей. А святло свеціць у цемры, і цемра не агарнула яго. З'явіўся чалавек, пасланы ад Бога; імя ягонае было Ян. Ён прыйшоў дзеля сведчання, каб засведчыць пра Святло, каб усе паверылі праз яго. Не быў ён святлом, але быў пасланы, каб сведчыць пра Святло. Было Святло праўдзівае, якое асвятляе кожнага чалавека, які прыходзіць на свет. У свеце было, і свет праз Яго стаўся, і свет не пазнаў Яго. Прыйшло да свайго, і свае Яго не прынялі. А тым, хто прыняў Яго, дало ўладу стаць Божымі дзецьмі, тым, хто верыць у імя Ягонае, хто ні ад крыві, ні ад жадання цела, ні ад жадання мужа, але ад Бога нарадзіўся. Слова сталася целам і пасялілася між намі, і бачылі мы славу Ягоную, славу, якую мае ад Айца Адзінародны, поўны ласкі і праўды. Ян сведчыць пра Яго і ўсклікае, кажучы: "Гэта быў той, пра якога я сказаў: за мною ідзе той, які апярэдзіў мяне, таму што быў раней за мяне". І з паўнаты Ягонай мы ўсе прынялі ласку замест ласкі. Бо Закон быў дадзены праз Майсея, ласка і праўда сталіся праз Езуса Хрыста. Бога ніхто ніколі не бачыў. Адзінародны Бог, які ва ўлонні Айца, Ён аб'явіў.

### БОГ ПАКЛАДАЕ Ў ТАБЕ НАДЗЕЮ

Божае Нараджэнне – гэта святкаванне любові Бога да чалавека. Яна прысутная ў нараджэнні Езуса ў Бэтлееме, у крыніцы нашага хросту. На ёй засноўваецца вера ў лепшае, вечнае жыццё. "Калі як хрысціяне хочам спазнаць простае людское шчасце, павінны любоў уцелаўлёнага Бога зрабіць фундаментам сваёй штодзённасці: працы, адпачынку, клопату адзін аб адным", – гаворыць а. Юзаф Аўгустын SJ, вядомы рэкалекцыяніст і аўтар шматлікіх хрысціянскіх кніг.

Жыццё кожнага чалавека мае вялікі сэнс. Яно цудоўнае, нягледзячы на цярпенні, прыніжэнні, а таксама віну, якую прыцягваем нашымі грахамі. Дзякуючы любові Нованароджанага ў Бэтлееме мы з супакоем у душы можам прыняць усе жыццёвыя нягоды, людскія крыўды і несправядлівасці. Яна натхняе на барацьбу са слабасцямі і перашкодамі лёсу, дапамагае раскрыць вочы, каб убачыць глыбейшае вымярэнне існавання.

*Кс. Юрый Бяганскі*



## Слова рэдактара
*Кс. Юрый Марціновіч*

# Перажыць праўдзівую радасць свят

*Мы ўсё яшчэ трываем у адвэнтавым чаканні свят Божага Нараджэння. Перажываем асаблівы час ласкі, які дае нам Пан Бог. Дадзены перыяд служыць роздуму над пытаннем "што мы ўвогуле збіраемся святкаваць", а таксама "як выглядае і куды накіроўваецца наша жыццё".*

Час Адвэнту і Божага Нараджэння – гэта магчымасць усвядоміць і прыняць, што ні елка, ні падарункі, ні нават аплатка з сям'ёй не прынясуць шчасця: зямнога, а тым больш вечнага. Па-сапраўднаму ашчаслівіць чалавека здольны толькі Езус. Святы з'яўляюцца чарговым запрашэннем да таго, каб за "ўпакоўкай" – пакупкамі ды прыгатаваннем смачных страў – мы разгледзелі сапраўдны "падарунак" – жывога Бога. Варта разарваць тую абалонку, што так часта замінае ўбачыць рэчаіснасць, і перажыць праўдзівую радасць гэтай урачыстасці. І тады шыкоўны вігілійны стол ці дарагія сюрпрызы ад св. Мікалая будуць нічым у параўнанні з духоўным багаццем.

Разам з прыходам Пана нашыя сэрцы павінны напоўніцца любоўю і радасцю. Стварыцель свету аб'явіўся Чалавекам, каб быць як мага бліжэй да людзей, бачыць і раздзяляць іх турботы, радасці, клопаты і надзеі. Ён не хоча заставацца недасяжным і далёкім, але як нявіннае Немаўля запрашае стаць Божымі дзецьмі – паслухмянымі, якія без рэшты давяраюць апецы Айца.

Сёлетняе святкаванне Божага Нараджэння не першае ў гісторыі Касцёла. Але ўсё яшчэ ўражвае цуд, які здзейсніўся больш за 2 тысячы гадоў таму і будзе трываць да канца часоў. Бог прыходзіць вельмі ціха: як у тую ноч у Бэтлееме. Найважнейшая таямніца адкрываецца тым, хто поўнасцю і бязмежна верыць. Зірнём на шопку і на Езуса, утоенага ў табернаклі – мы можам перажываць цуд Уцелаўлення падчас кожнага Пераістотчання. Хрыстос у сваім хвалебным Целе прысутнічае таксама як Дзіця, у якім існуе такая ж паўната Боства, што і ў прыбітым да крыжа Богу-Чалавеку.

У вігілійную ноч скіруем позірк на неба і першую зорку. Яна ўкажа нам дарогу і праўдзе ў бэтлеемскі хлеўчык, як некалі накіравала мудрацоў з Усходу. Створым адпаведны клімат, каб Езус, прыйшоўшы, застаў дзверы нашых сэрцаў адкрытымі і сагрэўся ў іх – не толькі падчас сямейных, поўных радасці і прабачэння свят, але і на працягу ўсяго жыцця.

**Дарагія Чытачы!**

Вы трымаеце ў руках апошні нумар газеты ў бягучым годзе. З гэтай нагоды хацелася б падзякаваць за тое, што надалей застаецеся з намі, Сябры. Мы існуем менавіта для Вас, таму прыміце ад імя ўсёй рэдакцыі асаблівыя святочныя пажаданні. Няхай Хрыстос народзіцца ў Вашых сэрцах, а Яго любоў напоўніць супакоем. Дзіцятка Езус стане крыніцай глыбокай веры, нязломнай надзеі і гарачай любові. А Марыя Панна, якая схіляецца над яселькамі, выпрасіць усім блаславення на надыходзячы 2017 год Панскі.



# Вігілійны абрад

**Вігілія Божага Нараджэння ўрачыста завяршае адвэнтавы перыяд. Сем'і збіраюцца разам, каб з'яднацца ў чаканні нованароджанага Збаўцы. Што ўваходзіць у абрад вігілійнай вячэры?**

## Запальванне свечкі

*Вігілійны стол засцілаем белым абрусам, пад які кладзём сена. Яго таксама можна ўпрыгожыць яловымі лапкамі. Разам з поснымі стравамі на стол ставім талерку з аплаткай. Па традыцыі пакідаем адно вольнае месца для нечаканага госця.*

*Калі на небе з'яўляецца першая зорка, бацька ці маці запальвае свечку на вігілійным стале, гаворачы пры гэтым:* ***"Святло Хрыста".*** *Усе адказваюць:* ***"Дзякуй Богу".***

## Чытанне Евангелля

Дзве тысячы гадоў таму ў свет прыйшоў Сын Божы Езус Хрыстус, які нарадзіўся ў бэтлеемскай стайні як безабаронная Дзіця. Стоячы, давайце паслухаем з верай словы з Евангелля, у якім апісваецца гэтая радасная для людзей падзея нараджэння Збаўцы.

*Хто-небудзь з сям'і выразна чытае ўрывак з Бібліі.*

**"У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай. А калі яны былі там, надышоў Ёй час нарадзіць. І нарадзіла Сына свайго першароднага. І спавіла Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе. У той ваколіцы былі на полі пастухі, якія вартавалі ўначы свой статак. Раптам з'явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народа, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля спавітае і пакладзенае ў яслях». І раптам з'явілася з анёлам вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі»" (Лк 2, 1–14).**

*Можна заспяваць калядную песню.*

## Супольная малітва

Хрыста, які прыйшоў у свет, каб збавіць нас, просім: **"Адары любоўю і супакоем!".**

Пане Езу, удзялі нашай сям'і дар любові, згоды і супакою. Адары шчасцем і радасцю нашых суседзяў, сяброў і знаёмых. Усіх пакінутых, адзінокіх, хворых і няшчасных суцеш і ўмацуй Добрай Навінай аб Збаўленні. **"Адары любоўю і супакоем!".**

*Супольна адгаворваем* **"Ойча наш"** і **"Вітай, Марыя".**

Молімся за нашых памерлых родных, каб добры Бог адарыў іх святлом вечнай хвалы. **"Вечны адпачынак...".**

Божа, Ты ўчыніў, што гэтая святая ноч заззяла бляскам сапраўднага святла Адзінароднага Сына. Учыні, каб і мы яснелі бляскам Твайго святла ў штодзённым жыцці. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.

## Дзяленне аплаткай

*Старэйшы член сям'і звяртаецца да прысутных:*

**"Цяпер у духу любові, раскрываючы сэрцы на ўзаемную любоў і прабачэнне, падзелімся аплаткай – хлебам любові. Няхай усе, хто жыве ў нашай сям'і і адведвае наш дом, маюць добрыя намеры і будуць шчаслівыя, здаровыя і ўзрадаваныя. Няхай Бог заўсёды будзе з намі і зробіць так, каб на гэтай вячэры мы сталі ўдзельнікамі Яго радасці ў Нябесным Валадарстве".**

*Дзелячыся аплаткай, прабачаем крыўды і складаем адзін аднаму сардэчныя пажаданні.*

## Вячэра

*Перад тым, як сесці за святочны стол, адгаворваем малітву:*

**"Паблаславі, Божа, нас, гэтую ежу і тых, хто яе прыгатаваў, у імя памяці аб нараджэнні Твайго Адзінароднага Сына, Пана нашага Езуса Хрыста. Амэн".**

*У чаканні Пастэркі – урачыстай св. Імшы на Божае Нараджэнне – спяваем калядныя песні.*

# Калядныя звычаі ў розных краінах

працяг са с. 1

## Ціхая ноч

У **Аўстрыі** на Вігілію з акон гучыць званочак. Гэта азначае, што распачынаецца святочная вячэра. На стале прысутнічаюць розныя стравы: карп, печаная качка. Самая папулярная – звычайнае цеста з малака, мукі, солі, масла і мёду. Па традыцыі ў невялікіх царкоўскіх мястэчках жыхары збіраюцца на рыначнай плошчы і спяваюць калядкі. Гэта менавіта ў Аўстрыі, у маленькай вёсцы Оберндорф, амаль 200 гадоў таму на свет з'явілася адна з найпрыгажэйшых калядак – "Ціхая ноч, святая ноч".

## Кавалак пня на стале

Святочная атмасфера ў **Бельгіі** пануе ўжо з лістапада, калі на гарадскіх плошчах ставіцца шопка і елка. На Божае Нараджэнне мясцовыя жыхары гатуюць урачысты сняданак. На стале можна знайсці як вустрыцы і амараў, так і індычку, а таксама бабу з крэмам мока. Галоўнай стравай лічыцца дзічына ў слівавым соусе і сарбет. На дэсерт бельгійцы падаюць паліты шакаладам пірог у форме пня.

## Каляднi парад

У **Люксембургу** святочны перыяд распачынаецца ў першую нядзелю снежня маштабным парадам, які накіроўваецца да гарадской ратушы. У ім прымаюць удзел "Kleeschen" (святы Мікалай) і "Houseker" (Чорны Пятрусь). Усім сустрэчным дзецям яны раздаюць слодычы. Прэзенты пад елку па павер'і прыносіць Дзіцятка Езус. Распакоўваюць іх толькі ў Дзень падарункаў (25 снежня). У першы дзень свят на стол падаецца Чорны пудынг, смажонка з зайца ці дзічына, часам індычка. Мясцовым дэлікатэсам з'яўляецца кекс Штолен.


Падчас Вялікага каляднага парада ў Люксембургу

## Барада святога Мікалая

На **Мальце** існуе звычай ставіць дома батлейку і аздабляць яе ліхтарыкамі. Апрача традыцыйных пастацей у шопцы знаходзяцца пастухі, вулічныя музыканты, селянін, які корміць жывёлу, жанчына з торбачкай мукі і мужчыны, адзін з якіх спіць, а другі – ляжыць на даху стаенкі і глядзіць на Дзіцятка Езус. Старадаўняй традыцыяй з'яўляецца высейванне зярнят на баваўнянай тканіне. Прарослыя ў цемры парасткі прыгадваюць белую бараду святога Мікалая. Іх змяшчаюць вакол шопкі як аздабленне.

## Халва замест аплаткі

У вігілійны вечар у **Іспаніі** мясцовыя жыхары замест аплаткі дзеляцца халвой. Затым выходзяць на вуліцы, асветленыя тысячамі рознакаляровых лямпачак, спяваюць калядкі і танцуюць, бавячыся да самай раніцы. Галоўнай калядная стравай з'яўляецца печаная рыба і торт Трох Каралёў, у якім запякаюцца невялікія падарункі.

## Танцы вакол елкі

Святочны перыяд у **Швецыі** працягваецца ад першай нядзелі Адвэнту ажно да 13 студзеня. Традыцыйная страва – размочаная сушоная рыба. Пасля яе падаецца заліўное са свініны, квашаніна і хлеб, а на дэсерт – пернікі. Добрай традыцыяй з'яўляецца наведванне самотных людзей. Шведы не спяваюць калядак, а танцуюць вакол елкі. Тут Пастэрка – ранішняя Імша ў першы дзень свят.

## "Шчаслівы" міндаль

У **Даніі** важным святочным элементам з'яўляецца свечка-каляндар, якая адмервае час і робіць чаканне Божага Нараджэння прыемным і цікавым для дзяцей. Вігілія адзначаецца пры сямейным стале, на якім абавязкова павінен быць традыцыйны дэсерт са схаваным у ім міндалем. Той, каму пападзецца гарэх, атрымлівае так званы "міндальны" прэзент. Перад тым, як распакоўваць святочныя падарункі, датчане бяруцца за рукі, спяваюць калядкі і танцуюць вакол елкі.

## Хлеб для патрабуючых

У некаторых сем'ях у **Францыі** захаваўся звычай дзяліцца хлебам. Згодна традыцыі на свята выпякаецца 13 хлябоў. Адзін з іх – большы – сімвалізуе Езуса, астатнія – Апосталаў. Хлябы ўпрыгожваюць застолле, а пазней іх раздаюць бедным і патрабуючым. У Вігілію дзеці пакідаюць свае чаравікі каля каміна, верачы, што святы Мікалай напоўніць іх падарункамі. У Францыі елка аздабляе дом толькі адзін дзень.

## Раство на пляжы

У **Аўстраліі** з-за клімату свята Божага Нараджэння праходзіць... на пляжах. Мясцовыя жыхары рассцілаюць на зямлі снежна-белыя абрусы, на якія выкладваюць печанага індыка, маленькія пірожныя незвычайнай формы з разынкамі, сухафруктамі і гарэхамі, фруктовыя пудынгі і торт. У гэты дзень аўстралійскія пляжы прыгадваюць адзін вялікі святочны стол.

**Свята Божага Нараджэння з'яўляецца адным з найбольш вядомых і любімых ва ўсім свеце, хоць у розных краінах і адзначаецца па-свойму. Нованароджаны Пан і Збаўца аб'ядноўвае людзей розных рас, моў і культурных традыцый, напаўняючы сэрцы хрысціян любоўю і ласкай.**

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

# Бэтлеемскі агонь прыбудзе ў Гродна

2016

**21 снежня ў катэдральную базіліку св. Францішка Ксаверыя будзе дастаўлена святло супакою з зямлі, дзе нарадзіўся Хрыстос. Урачыстая падзея адбудзецца ў сэрцы дыяцэзіі ў 19-ты раз.**

**Упершыню акцыя "Бэтлеемскі агонь супакою" была арганізавана ў 1986 годзе ў Лінцы (Аўстрыя) як частка калядная дабрачыннай акцыі для дзяцей-інвалідаў і ўбогіх. Тады яна называлася "Святло ў цемры". Пасля ініцыятыву падхапілі аўстрыйскія скаўты, пачаўшы разносіць агонь у бальніцы, дзіцячыя дамы, адміністрацыі. З 1997 года Бэтлеемскае святло міру перадаецца з Вены ў еўрапейскія краіны, на амерыканскі кантынет і нават за палярны круг.**

Бэтлеемскі агонь супакою штогод запальваецца ад нязгаснай лампады ў Гроце Нараджэння Пана. Па традыцыі гэта робіць дзіця, якое асаблівым чынам вылучылася сярод сваіх аднагодкаў. У гэтым годзе тытулам "дзіця міру" была адзначана 12-гадовая Мэлані Вальтэр. Вучаніцу музычнай школы настаўнікі і сябры лічаць "прыкладам любові да бліжняга і абаронцай міру". Затым агонь самалётам дастаўляецца ў Вену (Аўстрыя). Падчас экуменічнага набажэнства ён перадаецца дэлегацыям скаўтаў з усяго свету. Праз памежжы Чэхіі і Польшчы агонь трапляе ў Беларусь. А затым уручаецца скаўтам з Расіі.

Адметна, што гродзенская святыня з'яўляецца першай (за выключэннем гэтага года) на беларускім шляху эстафеты перадачы святога агню. Пасля прыбыўшыя скаўты развозяць яго ў навакольныя парафіі і перадаюць далей ва ўсе касцёлы краіны.

Бэтлеемскі агонь урачыста ўносіцца ў касцёл у поўнай цемры на знак святла, які сваім нараджэннем унёс у змрок сусвету Хрыстос. Ён прыйшоў, каб збавіць чалавецтва, таму агонь з Бэтлеема, дзе Ён з'явіўся на свет, называюць агнём супакою. Святары заўважаюць, што да бэтлеемскага агню не варта ставіцца як да містычнай з'явы. Гэты сімвалічны жэст мае, перадусім, глыбокі духоўны сэнс. Агеньчык запальваецца на знак надзеі і любові. Нагадвае аб тым, што ўсе мы з'яўляемся адной хрысціянскай сям'ёй. Полымя – гэта таксама сімвал веры, якая павінна гарэць у сэрцы чалавека. І каб яна не гасла, трэба дзяліцца ёю з акружаючымі.

Кожны вернік можа прынесці агеньчык гэтага святла дадому і пастaвіць на вігілійным стале. Тым самым ён раздзяляе са сваімі блізкімі радасць ад нараджэння Збаўцы.


Бэтлеемскі агонь аб'ядноўвае не толькі жыхароў шматлікіх краін, але і прадстаўнікоў розных хрысціянскіх канфесій

*Ангеліна Пакачайла*

# Слова для жыцця

*Папа Францішак*



*З нараджэннем Езуса ў Бэтлееме Бог пасяліўся сярод нас, каб вызваліць ад эгаізму, граху, амаральнасці, д'ябальскіх падступаў: пошуку задавальненняў і поспеху любой цаной, багацця і ўлады за кошт самых слабых.*

*Урачыстасць Божага Нараджэння – гэта не толькі дзень вялікай знешняй радасці, але, перш за ўсё, рэлігійная падзея, да якой патрэбна духоўна падрыхтавацца. У час Адвэнту будзем кіравацца заклікам Хрысціцеля: "Падрыхтуйце дарогу Пану, раўняйце сцежкі Яму" (Мц 3, 3). Нам удасца гэта зрабіць, калі прааналізуем сумленне, уважліва паразважаем над сваімі паводзінамі, каб пазбавіцца ад тых грахоўных дзеянняў, якія не з'яўляюцца Божымі.*

*Няхай Панна Марыя дапаможа нам годна падрыхтавацца да сустрэчы з гэтай "заўсёды большай Любоўю", якая ў ноч Божага Нараджэння стала маленькай-маленькай, як зерне, што ўпала ў зямлю, нанова адкрыўшы чалавецтву Божае Валадарства.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай "Анёл Панскі", 04.12.2016*



*Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*

*Марыя з моманту свайго зачацця была захавана ад першароднага граху. Дзякуючы гэтай свабодзе ад схільнасці да злога і сваёй дасканаласці Яна стала блізкай людзям. Яе адзінства з кожным чалавекам нельга ні з чым параўнаць. Бо тым, што раздзяляе і аддаляе людзей адзін ад аднаго, з'яўляецца эгаізм, які вынікае з граху і якога не было ў Марыі. Таму Яна, як Маці, не толькі любіць нас, але таксама разумее і спачувае. Праўда пра Беззаганнае Зачацце паказвае хрысціянам, якія вялікія рэчы Бог можа зрабіць для чалавека і якія планы мае адносна кожнага: давесці да паўнаты чалавечнасці і святасці.*

*Угледаючыся сёння ў Найсвяцейшую Маці, усведамляем, што ў любой сітуацыі Яна імкнулася распазнаць і выканаць Божую волю. Такая пазіцыя была для Марыі крыніцай новай сілы. Для нас гэта важны напамін аб тым, што паслухмянасць Богу і Яго волі гарантуюць чалавеку шчасце ў сям'і і грамадстве.*

*Фрагмент пастырскага ліста на ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця НПМ*




◆ Прэм'ер-міністр Ірландыі Энда Кені паведаміў, што Святы Айцец Францішак прыедзе ў гэтую краіну ў жніўні 2018 года, каб прыняць удзел у Сусветнай сустрэчы сем'яў у Дубліне. Гэта будзе другі папскі візіт у Ірландыю, якую ў 1979 годзе наведваў св. Ян Павел ІІ. Як падаюць ірландскія СМІ, Апостальскае падарожжа ўключае кароткі двухдзённы душпастырскі візіт. Не выключана, што ён можа ахапіць і Паўночную Ірландыю, якая належыць да Вялікабрытаніі.

◆ Святы Айцец Францішак напісаў уступленне да фотаальбома пад назвай "Cristo dentro" ("Хрыстос вязень") аб татуіроўках рэлігійнай тэматыкі ў турэмным свеце. Фотаздымкі суправаджаюцца сведчаннямі вязняў. "Кожны раз, калі пераступаю браму турмы, гледзячы на твары людзей, якіх сустракаю, думаю: чаму яны, а не я? – піша Пантыфік. – Усе мы грэшнікі і маем патрэбу ў Божай міласэрнасці, якая падымае нас духам, даруе і дае надзею. Дзякуй за дар гэтай кнігі! Абдымаю вас, бласлаўляю і малюся. Прашу і вас маліцца за мяне".

◆ Распачаўся беатыфікацыйны працэс а. Стэнлі Разэра (1935–1981). Святар стаў першым афіцыйна зацверджаным Касцёлам мучанікам, які нарадзіўся ў ЗША. Паходзіць з сям'і фермераў. Святарскія пасвячэнні прыняў 25 мая 1963 года. Пасля некалькіх гадоў пастырскай працы адправіўся на місію ў Гватэмалу (Цэнтральная Амерыка). Садзейнічаў там у будаўніцтве бальніцы. Быў адчувальны да несправядлівасці ў адносінах да індзейцаў. За гэта яму пагражалі. Страціў сваё жыццё ў ліку 10-ці святароў, якія загінулі ў тым годзе ў Гватэмале.

◆ Зноў можна маліцца пры магіле св. Рыты. Базіліка ў Кашы (Італія) была закрыта пасля землятрусу ў кастрычніку бягучага года. Пашкоджанні ўжо выпраўлены, канструкцыя ўзмоцнена. І хоць у горадзе працягваюцца падземныя штуршкі, святыня аддадзена вернікам для карыстання. Рэктар базілікі а. Бернардзіна Піцаролі прызнаецца, што аўгустынцам вельмі важна было як мага хутчэй адкрыць святыню, каб вярнуць надзею жыхарам рэгіёна і аднавіць паломніцкі рух, з якога жыве Каша.

◆ Польскае тэлебачанне скончыла паказ 16-га сезона серыяла "Айцец Мацвей", які карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод публікі. Фінальная серыя сабрала перад тэлевізарамі 4,43 млн. гледачоў. Галоўным героем з'яўляецца ксёндз, які жыве ў Сандаміры. Па пакліканні ён не толькі душпастыр, але і дэтэктыў. Ксёндз заўсёды дапамагае паліцыі ў разблытванні крымінальных галаваломак, якія шакіруюць Сандамір і ваколіцы. Гэта звычайна раздражняе камендanta паліцыі. Чарговы сезон ужо вясной 2017 года.

credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl

Ангеліна Пакачайла

# Умілаваныя ў Хрысце Пану Браты і Сёстры!

## Дарагія Чытачы газеты "Слова Жыцця"!

*У святую ноч Божага Нараджэння вялікае святло заззяла над зямлёй. Адзінародны Сын Божы, Езус Хрыстус, "выракся самога сябе, прыняўшы постаць слугі" (Флп 2, 7) і прыйшоў у гэты свет як убогае, пакорнае, безабароннае Дзіцятка. Сапраўдны Бог стаў чалавекам, каб усяму роду людскому аб'явіць паўнату сваёй бясконцай любові.*

*Падобна як пастухі з ваколіц Бэтлеема, якія ў тую ноч вартавалі свой статак, сёння мы чуем тыя самыя словы Добрай Навіны: "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся сёння ў горадзе Давіда Збаўца, які ёсць Хрыстус Пан" (Лк 2, 10–11). Асвечаныя святлом веры, прыбываем у стаенку і схіляем галаву перад нованароджаным Збаўцам, у абліччы якога зззяе найцудоўнейшая з таямніц: таямніца Божай любові.*

*Давайце даверымся гэтай любові і адкрыем сэрцы Хрысту. Няхай Той, які нарадзіўся для нас, народзіцца таксама ў нас. Дазволім Яму перамяніць сваё жыццё, напоўніць яго радасцю, надзеяй, супакоем. Няхай у нашых сем'ях, у месцах вучобы і працы, у супольнасцях, да якіх належым, і ва ўсім грамадстве будзе як мага больш узаемнай павагі, дабрыні, міласэрнасці і прабачэння. Тады мы адчуем сапраўдную радасць, якую нясе нованароджаны Збаўца.*

*У поўныя радасці і хвалы святы Божага Нараджэння атачаем Вас усіх, дарагія Браты і Сёстры, сваёй малітвай і складаем самыя сардэчныя віншаванні. Няхай Езус Хрыстус кожнаму шчодра блаславіць, умацоўваючы ў веры, надзеі і любові, адорыць добрым здароўем і шчодра надзеліць усялякімі ласкамі. Няхай Новы 2017 год Панскі будзе паспяховым і шчаслівым, а кожны яго дзень праходзіць пад знакам Божай хвалы.*

**Аляксандр Кашкевіч,**
*Біскуп Гродзенскі*

Вясёлых свят!

**Юзаф Станеўскі,**
*Дапаможны біскуп*

# Святы Божага Нараджэння – асаблівы для хрысціян час

***Божае Нараджэнне – выключны перыяд у годзе. Час любові, радасці, прабачэння, а таксама роздуму над жыццём і ажыццяўлення добрых спраў.***

***Як рыхтуемся да сустрэчы з Божым Дзіцяткам? У якім духу спраўляем святы? Што яны на самой справе для нас азначаюць?***



**Крысціна Лісай**

*Раство – самая цудоўная хрысціянская ўрачыстасць, якой папярэднічае не менш цудоўны перыяд чакання. Падчас яго адбываецца шмат цікавых падзей. У нашай парафіі Святога Духа ў Гродне існуе прыгожая традыцыя: у першую нядзелю Адвэнту вернікі прыносяць у капліцу для асвячэння вяночкі з яловых галінак. Пасля кожная сям'я змяшчае іх разам з чатырма свечкамі ў сваіх дамах на бачным месцы, дзе штодня збіраецца на супольную малітву. Яшчэ адным неад'емным элементам чакання Божага Нараджэння з'яўляюцца раратнія св. Імшы, падчас якіх святыня напаўняецца радаснымі дзіцячымі галасамі і агеньчыкамі запаленых свечак. Гэта і рэкалекцыі, што дапамагаюць адарвацца ад штодзённасці і духоўна падрыхтавацца да перажывання свят. Аплаткавыя сустрэчы...*

*У чаканні Раства я разам з іншымі вернікамі нашай парафіі прымаю ўдзел у падрыхтоўцы каляднага прадстаўлення, дапамагаю ўпрыгожваць капліцу. З сям'ёй ствараем святочны настрой у доме: вокны аздабляем выцінанкамі, на якіх прадстаўлены сцэны Раства, елку ўпрыгожваем звязанымі кручком анёламі і каляднымі зоркамі. Пасля гатуем вігілійную вячэру. Калі на небе зазіхаціць першая зорка, надыходзіць найбольш кранальны момант: за адным сталом збіраюцца 3–4 пакаленні нашай сям'і. Мы запальваем свечкі, абавязкова чытаем урывак са Святога Пісання, молімся, спяваем калядныя песні, дзелімся аплаткай, а потым усе разам ідзём на Пастэрку.*



**Вікторыя Сідар**

*Для мяне святкаванне Божага Нараджэння пачынаецца значна раней – у першую нядзелю Адвэнту. Прыгажосць гэтых дзён грунтуецца на падрыхтоўцы да спаткання з Богам-Чалавекам, які прыходзіць у свет, каб збавіць чалавецтва. Неабходна імкнуцца стаць трошачкі лепшымі, суцішыць свае думкі і скіраваць іх да вялікай Таямніцы прыйсця. Вельмі важна ў святочнай мітусні не забыцца аб Тым, хто да нас прыходзіць і чыё гэта свята. Ужо тое, што Езус нарадзіўся ў хлеўчыку на сене, з'яўляецца падказкай, чаго Ён на самой справе ад нас чакае. Для Хрыста няважны шыкоўны стол, аздобленая елка ці ўвесь дом – Ён прагне нашай увагі і любові. Годна перажываючы гэты перыяд, мы рыхтуем сваю душу да сустрэчы са Збаўцам, адкрываем прыгажосць трывання з Панам.*

*Абавязковы складнік плённага перажывання Божага Нараджэння – сустрэча з роднымі. Асабліва выразна гэта адчуваюць тыя, хто знаходзіцца далёка ад сваіх блізкіх. Мне здаецца, што жаданне быць з сям'ёй вынікае не толькі з таго, што мы сумуем па родных, але і з-за тугі па Богу. Хрыстос неаднаразова навучаў, што Ён прысутны ў кожным чалавеку. Што ж можа быць лепшым, чым убачыць Пана ў бліжніх і адчуць Яго прысутнасць праз іх любоў, а таксама адарыць Езуса сваёй любоўю праз клопат і павагу да іншых людзей?*

*Сямейная сустрэча і малітва – найважнейшыя элементы Раства ў нашым доме. З раніцы пачынаецца гатаванне страў на вігілійны стол, а разам з тым узрастае моц чакання першай зоркі. Калі ўсе сабраліся, распачынаем малітву, пасля якой ламаемся аплаткай і складаем адзін аднаму пажаданні. Затым сядаем за стол, каб разам з'есці вігілійную вячэру. Не прытрымліваемся правіла 12-ці страў, хоць і хапае разнастайнай поснай ежы. Перад Пастэркай адпачываем, размаўляем, дзелімся апошнімі перажываннямі. Пасля ўрачыстай св. Імшы едзем дадому, каб раніцай працягнуць святкаванне самых цудоўных дзён у годзе – прыходу нашага Пана на свет!*



**Юрый Савіцкі**

*Свята Божага Нараджэння асацыіруецца ў мяне з атмасферай дабрыні, радасці, сардэчнасці. Уяўляецца вялікая і дружная сям'я, якая збіраецца за святочным сталом, каб паламацца аплаткай, прабачыць адзін аднаму правіны і разам сустрэць нованароджанага Езуса. Гэта для мяне таксама час настальгіі. Ва ўспамінах вяртаюся ў бацькоўскую хату, дзе марознае паветра абпальвае лёгкія, калі стаіш на прыступках, чакаючы з'яўлення ў небе Бэтлеемскай зоркі, дзе разносіцца водар вігілійных страў і сена, якое бабуля паклала пад абрус.*

*Раней мне здавалася, што Раство – традыцыйнае свята, якое аднолькава адзначаецца ў кожнай сям'і. Але калі мне было 16 гадоў, бацькі зладзілі "незвычайную" Вігілію, пасля якой я зразумеў, што памыляўся. У святы вечар яны запрасілі да нас суседа – адзінокага дзядулю, які застаўся без жонкі, а дзяцей не меў. Апошнія некалькі гадоў ён самотна спраўляў усе святы. Калі мы дзяліліся аплаткай, я заўважыў, што ў госця на вачах блішчаць слёзы... Відаць, узгадаў, як некалі сустракаў Божае Нараджэнне разам са сваімі блізкімі. Пасля вячэры я доўга не мог прыйсці ў сябе. Усё думаў аб тых самотных, пакінутых людзях, якія чакаюць нашай увагі. Дзякуючы сваім бацькам я зразумеў, што нельга ахінуць сваім клопатам кожнага патрабуючага, але зрабіць шчаслівым хоць аднаго чалавека на кароткі час – гэта цалкам рэальна. Таму зараз свята Божага Нараджэння атаясамліваецца ў мяне яшчэ і з магчымасцю праявіць сваю спагадлівасць і чалавечнасць.*

Кінга Красіцкая

# ЗАПІСКІ АЛКАГОЛІКА

● працяг з папярэдняга нумара

### Дзень пятнаццаты

З раніцы раскрычаўся Дзяніс. Яго ўжо даўно ўсё не задавальняе. Неаднаразова прызнаваўся, што ў рэабілітацыйным цэнтры дзеля справкі, таму што знаходзіцца на ўліку... На занятках разбіралі адносіны ў сям'і. Разумею, што быў страшным эгаістам... Нечакана прыйшлі бацькі. Узрадаваўся. Як прыемна бачыць іх спакой. А я, паскуднік, усё гэта перакрэсліваў...

### Дзень шаснаццаты

Прысніў, што гарэлку піў. Памаліўся... На дэтаксікацыю прывезлі двух дзяўчат. Адну трасе, плача. Другая ганарлівая, "з каронай". Гаворыць, усё ў яе нармальна. Канешне, калі параўноўваць сябе з тымі, хто валяецца каля плоту, то ўсё сапраўды не так блага. Але як лёгка можна трапіць на іх месца, калі адмаўляць сваю праблему. Часта, калі гэта ўсведамляеш, ужо позна...

### Дзень сямнаццаты

Успамінаю сябе пасля ваеннага вучылішча. Адзенне акуратна складзена. Раніцай бегаў, а ўвечары ў трэнажорцы прападаў. А потым у маім жыцці з'явіўся алкаголь, ад якога стаў залежны. Гэта злашчасная гарэлка "вымыла" з мяне адказнасць, замарозіла пачуцці...

### Дзень васямнаццаты

Сёння ў Каці Дзень нараджэння. Павіншаваў. Заварыў ёй кубак кавы. Была рада. І мне прыемна... Атрымалі ў групе заданне стаць "анёламі" для падапечных: старацца аказваць знакі ўвагі, не выдаючы сябе. Мой "анёл" часам занадта пра мяне клапоціцца! Але ўсё ж прыемна, што ты не адзін і ёсць хтосьці побач...

### Дзень дзевятнаццаты

Падняўся раней, чым звычайна. Не спалася. Узяўся за крыжаванкі... На сустрэчы з валанцёрамі адчуваў абыякавасць. Мне здаецца, наркаман не можа да канца зразумець алкаголіка... У курылцы чамусьці ўспомніў песню Віктара Цоя. Напеў пра сябе: "Сачы за сабой, будзь асцярожны...". Пачынаю чуць сэнс песень. Раней словам не надаваў значэння.

### Дзень дваццаты

Прачнуўся і памаліўся... На працягу дня спрабаваў знайсці магчымасць "пад'ехаць" да свайго падапечнага. Але ён абраў сабе іншага "анёла". Стаў клапаціцца пра іншых, як мне падалося, адзінокіх... Сумую па родных...

### Дзень дваццаць першы

Сёння на занятках слухаў рабят з групы. У Дзімы нейкая скаванасць і нежаданне адкрывацца. Трымае ў сабе дрэннае мінулае. І Света неяк замкнулася, а была такая хахатушка. На занятках асобна сядзіць. Паспрабаваў пагаварыць з ёю – не выйшла. А як дапамагчы? Шкада дзяўчыну.

### Дзень дваццаць другі

Сёння праважалі Сашу. Калі ён зачытваў ліст ад мамы, у многіх наварочваліся слёзы... Разгледалі на занятках стане чалавека, якія выклікаюць цягу, размаўлялі пра самадысцыпліну. Загрузіўся. Здавалася, мозг выбухне. Шмат чаго не разумею. Самадысцыпліна – гэта дрэнна ці што? Усё, пайшоў маліцца і спаць.

### Дзень дваццаць трэці

Сёння малодшаму сыночку год і тры месяцы! Так захацелася яго абняць... На зарадцы перастараўся і пацягнуў грудную мышцу. Цяпер кашляну балоча... На занятках слухаў пра наступствы алкагалізму і наркаманіі. Пытанне: як жа трэба сябе не любіць, каб так здзекавацца?.. Пасля адбою трохі пагаварылі з Ігарам. Знайшлі агульны інтарэс – аўтамабільныя аўдыёсістэмы.

### Дзень дваццаць чацвёрты

Адчуваю, што стаў моцна стамляцца разумова. Значыцца, мозг працуе, прычым актыўна... Быў тэматычны занятак "Як я пачынаў піць і чаму піў потым". Колькі сябе памятаю! Толькі тут гэта зразумеў. Піць ад радасці ці гора, па святах? Усё гэта адгаворкі... Гулялі ў "Мячык праўды". Вучыліся нічога не ўтойваць і казаць праўду ў вочы.

### Дзень дваццаць пяты

Прыходзіў старэйшы сын. Прызнаўся, што па неасцярожнасці разбіў у машыне шкло. Але ўжо памяняў яго. На здзіўленне, я адрэагаваў спакойна. Сын таксама здзівіўся. Раней, калі б такое здарылася, стаў бы на яго крычаць, доўга хадзіў бы злы і раздражнёны. Прыемна, што занятки тут ідуць мне на карысць... Дзякую Богу за яшчэ адзін дзень у цвярозасці.

### Дзень дваццаць шосты

Нядзеля. Памаліўся. Узяў у Ігара Біблію. Пачытаў пра стварэнне свету. Узнікаюць пытанні: як гэта Бог забыўся пра Ноя? абяцаў дажджы 40 дзён і 40 начэй, а спыніў толькі праз 150?.. Адведала жонка. Гаворыць, буду зноў яе заваёўваць. А ў гэтым ёсць нейкая інтрыга, жыццё ж новае прыйдзецца пачынаць. Я гатовы!

### Дзень дваццаць сёмы

Заўтра выпіска. Неяк сумна развітвацца з людзьмі, з якімі паспеў пасябраваць. Ды і да настаўнікаў прыкіпеў. Бязмежна ім удзячны за веды, якімі яны дзяліліся, і падтрымку – жыццёва неабходную для мяне.

### Дзень дваццаць восьмы

Падводжу вынікі: з чым прыйшоў, а з чым пайду. Трохі боязна вяртацца ў суровую рэальнасць. Але ведаю, што побач блізкія, з дапамогай якіх у мяне ўсё павінна атрымацца...

**Ужо 10 гадоў, як у Гродзенскім абласным клінічным цэнтры "Псіхіятрыя-наркалогія" адкрыта першае ў Беларусі наркалагічнае аддзяленне для лячэння і рэабілітацыі асоб, пакутуючых ад залежнасцей (алкагольнай, наркатычнай, гульнявой). За гэты час праз сцены ўстановы прайшло больш за 1 500 чалавек. Сярод іх пацыенты з розных куткоў Беларусі, а таксама Расіі, Украіны, Латвіі, Польшчы.**

Аддзяленне разлічана на 30 чалавек. І заўсёды перапоўнена. Сярэднестатыстычны партрэт пацыента раней – мужчына 40-50 гадоў. Сёння каля паловы выздараўліваючых – жанчыны. І ўзроставыя рамкі значна паменшыліся.

Залежныя лечацца па праграме "28 дзён", якая распрацавана на аснове 12-крокавай. ***"Асаблівасць лячэння ў тым, што з пацыентамі працуюць не толькі медыкі, але і выздараўліваючыя людзі, якія атрымалі неабходную адукацыю,*** – заўважае загадчыца аддзялення Валянціна Мурына. – ***Яны маюць вопыт хваробы, таму знаёмы з праблемай знутры".*** У склад персанала ўваходзяць 2 псіхатэрапеўты, псіхолаг і 2 кансультанты тэрапіі залежнасцей.

Падчас рэабілітацыйнага курсу пацыенты разам са спецыялістамі разбіраюць першыя 3 крокі, без якіх немагчыма пачаць выздараўліваць. Медытуюць. Глядзяць фільмы, чытаюць адпаведную літаратуру. Удзельнічаюць у трэнінгах. Наведваюць тэматычныя лекцыі. Атрымліваюць заданні, выконваюць іх і абмяркоўваюць у групах. ***"У нас не праходзіць фальш,*** – гаворыць кансультант тэрапіі залежнасцей Юрый Гапонік. – ***Нават недасказанасць не ўспрымаецца. У групе адчуваецца падтрымка і дапамога. Людзі «цягнуць» адзін аднаго".*** Прыходзяць святары (праваслаўны і каталіцкі), а таксама выздараўліваючыя валанцёры, якія ўжо прайшлі курс рэабілітацыі і некалькі гадоў жывуць у цвярозасці.

Па тэрміне праграма непрацяглая, але насычаная. У стацыянары няма ціхага часу. Выхадны – адзін на тыдзень, у нядзелю. Пры паступленні пацыенты адмаўляюцца ад гаджэтаў. У аддзяленні няма тэлевізара. Любы вольны час выкарыстоўваецца для самападрыхтоўкі.

***"Выздараўліванне не можа адбывацца без удзелу сям'і,*** – заўважае Валянціна. – ***На жаль, родныя ідуць на кантакт не так ахвотна, як нам бы гэтага хацелася. Многія думаюць, праблема залежнага – выключна яго. Але хочуць яны таго ці не, трэба прызнаць, што блізкія міжвольна становяцца сузалежнымі. І ім таксама неабходна змяняцца, каб дапамагчы выздараўліваючаму. Не наракаць, не папракаць, дабіваючы гэтым. Пацыент і без таго адчувае пачуццё віны і хоча ўсё выправіць. Трэба прадставіць яму такую магчымасць і сваё плячо".*** Па суботах у цэнтры збіраюцца групы з роднымі. Спецыялісты праводзяць з імі бяседы.

У аддзяленні таксама распрацавана праграма антызрыва. Па ёй лечацца пацыенты, якія, меўшы тэрмін выздараўлівання, сарваліся. Вярнуўшыся ў аддзяленне, яны аналізуюць свае памылкі, разбіраюць сітуацыю, якая да гэтага прывяла. Адкрываюць сабе вочы на тое, чаму так здарылася.

***"Заканчэнне рэабілітацыі – гэта толькі пачатак, фундамент для далейшага выздараўлівання,*** – падкрэслівае Валянціна. – ***Чалавек не вернецца з цэнтра «як новенькі» – хутчэй напалоханы, але з пэўнымі ведамі. Перад выпіскай ён піша план цвярозасці на 3 месяцы. Гэта дапамагае адаптавацца са сваёй праблемай у соцыуме. У цэнтры побач спецыялісты, гатовыя дапамагчы. Дома застаешся сам-насам. Рэкамендуем пасля рэабілітацыйнага курсу наведваць сходы ананімных алкаголікаў ці наркаманаў. Сустрэчы адбываюцца штодня. На іх людзі дзеляцца сваім вопытам, разбіраюць шматлікія пытанні, якія цікавяць і хваляюць. У ідэале – калі родныя ходзяць на падобныя сходы дзеля ўзаемадапамогі для сузалежных".***

**Сутыкнуліся з падобнай праблемай?
У цэнтры Вам дапамогуць!**

**Адрас: г. Гродна, пр-т Касманаўтаў, 60/6.
Тэлефоны: (8 0152) 75-74-62, (8 029) 786-40-30.**

**Дзмітрый прызнаецца, што першым чынам, калі вярнуўся дадому, абзваніў сяброў і сказаў, каб у кампаніі "пасядзець" не клікалі. Ён больш не п'е. Рэгулярна наведвае сходы ананімных алкаголікаў. Нядаўна зацікавіўся кухняй. Цяпер радуе жонку і дзяцей смачнай вячэрай. У Дзмітрыя распачалося новае жыццё – у цвярозасці.**

*Ангеліна Пакачайла*




***17 снежня бягучага года прыпадае 20-я гадавіна смерці а. Станіслава Гаўліка – святара, які аднавіў рэлігійнае жыццё ў парафіі ў Жытомлі. Да гэтага мы, мясцовыя вернікі, ездзілі ў Гродна, Каменку, Лунна...***

*Ішлі гады – і сонца засвяціла нам! Аднойчы пазнаёміліся на жытамлянскіх могілках з а. Станіславам, які здзяйсняў там абрад пахавання. Звярнуліся да яго з просьбай рэгулярна адпраўляць у нас набажэнствы. І ён стаў прыязджаць з далёкіх Прывалкаў. Кожную нядзелю, нягледзячы на надвор'е. Хоць абслугоўваў яшчэ Азёры і Кашубінцы... Праз нейкі час сумеснымі намаганнямі мы разам з айцом абгарадзілі могілкі і пабудавалі капліцу.*

*Дарэчы, хочацца заўважыць, што ўсё, да чаго святар прыкладваў руку, рабіў з вялікай ахвотай і запалам. Шчыра і аддана служыў Богу і людзям, не шкадуючы сябе. Яму не залежала, якой цаной будзе зроблена чарговая справа на хвалу Бога...*

***А. Станіслаў застанецца ў нашай памяці назаўсёды. Няхай Усемагутны Пан за ўсё яму аддзячыць.***

*Агнешка Абуховіч, в. Абухавічы*




DEON.PL

**Францішак – самае папулярнае імя ў Італіі**

***З моманту абрання цяперашняга наступніка святога Пятра нованароджаных хлопчыкаў найчасцей называюць так, як і Святога Айца.***

*Сярод іншых папулярных імён – арабскае Юсуф або ірландскае Раян, а таксама кітайскія імёны, што сведчыць пра рост колькасці дзяцей мігрантаў. З 1990-х у Італіі назіраецца рэгрэс у натуральным узнаўленні насельніцтва, што, аднак, кампенсуецца павелічэннем сямей перасяленцаў.*




**У Неапалі ствараецца музей калядней стаенкі**

***Там будуць выстаўлены найбольш значныя творы мясцовых майстроў.***

*Музей ствараецца з мэтай аднаўлення традыцыі і культуры. Сярод экспанатаў – яслі, якія ў 2013 годзе былі змешчаны на плошчы св. Пятра. Пазней яны былі перададзены папам Францішкам дыяцэзіі Неапаль, каб тыя сталі пачаткам для музея.*

*Неапальскія стаенкі карыстаюцца не меншай папулярнасцю, чым кракаўскія. Традыцыя іх будавання сягае аж но да XIII стагоддзя. Часта, акрамя галоўнай кампазіцыі, шопкі ўключаюць сцэны са штодзённага жыцця сучаснікаў.*




**У Славакіі паўстала катэдра з лёду**

***Незвычайную святыню будавалі на працягу 3-ох тыдняў 15 скульптараў. Майстры выкарысталі ў сваёй працы 720 глыбаў лёду агульнай вагой 90 тон. Святыня знаходзіцца пад спецыяльным навесам, дзе, незалежна ад атмасферных умоў, падтрымліваецца тэмпература каля -7°С.***

*У алтары катэдры выстаўлены фігуры Маці Божай з Дзіцяткам на руках і Майстра Паўла з Левачы. Акрамя таго, там змешчаны постаці св. Якуба, св. Барбары, св. Марыі Магдалены і св. Антонія Пустэльніка.*

*Ахвотных убачыць скульптурны аб'ект дастаткова. Больш за ўсё наведвальнікаў з'яўляецца падчас выхадных. Мінулай зімой за 137 дзён ледзяную катэдру наведалі 218 тысяч турыстаў. У ёй таксама адбываліся канцэрты і шлюбы.*

*Кінга Красіцкая*

## Адышоў у вечнасць кс. канонік Людвік Станішэўскі

*Пахаванне пробашча гнезнаўскай парафіі св. Міхала Арханёла (Ваўкавыскі дэканат) адбылося 5 снежня ў Элку.*



Каб развітацца са спачылым ксяндзом, прыбылі біскупы Аляксандр Кашкевіч і Юзаф Станеўскі, святары і вернікі некаторых парафій з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама духавенства з Кашалінска-Калабрэскай дыяцэзіі, да якой быў інкардынаваны ксёндз канонік, і Элцкай, дзе адбывалася пахаванне.

Развітальную св. Імшу ўзначаліў біскуп Элцкі Ежы Мазур SVD. Гамілію прамовіў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, які адзначыў, што смерць кс. Людвіка – вялікая страта для беларускага Касцёла. “Дзякуем Богу за яго святарскія вусны, якія абвяшчалі слова Праўды, нагадвалі і ўказвалі шлях да неба, да Дому Айца. Дзякуем Усявышняму і за яго рукі, праз якія вернікам адпускаліся грахі, удзялялася Цела Хрыста і блаславенне”, – сказаў біскуп.

Пасля літургіі цела спачылага было пахавана на мясцовых могілках. У парафіяльным касцёле св. Міхала Арханёла ў Гнезне і ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Росі адбыліся св. Імшы ў інтэнцыі памерлага ксяндза.

**Адкрыты на патрэбы Касцёла**

Жыццё кс. Людвіка было цесна звязана з беларускай зямлёй. Святар нарадзіўся ў в. Талькоўка каля Ваўкавыска. Быў ахрышчаны ў парафіяльным касцёле ў Воўпе. У 1957 годзе разам з бацькамі выехаў у Польшчу. Там скончыў Вышэйшую духоўную семінарыю, а пасля працаваў вікарыем і пробашчам у многіх парафіях.

У 1989 годзе прыехаў на пахаванне свайго дзядзькі – кс. Рышарда Вербеля, які шмат гадоў нёс паслугу ў Росі. Убачыўшы мясцовых вернікаў, якія засталіся без душпастырскай апекі, але вельмі прагнулі Бога, пастанавіў застацца ў Беларусі. З руплівасцю і запалам адказаў на просьбу біскупа намінанта Тадэвуша Кандрусевіча і прыняў абавязкі пробашча 5-ці парафіяльных супольнасцей: у Гнезне, Росі, Мсцібаве, Шылавічах і Воўпе. З часам туды былі скіраваны святары, таму кс. Людвік абслугоўваў ужо толькі адзін касцёл – у Гнезне, дзе быў пробашчам з 1989 года да самай смерці.

У 2016 годзе прызначаны ганаровым канонікам Гродзенскага катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Казіміра.

## Моладзь памалілася ружанцам праз Skype

*Традыцыйнае мерапрыемства адбылося пад дэвізам “Марыя Беззаганная – прыклад чысціні” ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.*



Малітве папярэднічала св. Імша ў пабрыгіцкім касцёле ў Гродне, падчас якой кс. Антоній Грэмза заклікаў прысутных да жыцця ў святасці па прыкладзе Марыі, бо Яна з'яўляецца самай моцнай зброяй у барацьбе са спакусай. “Кожны грэх пакідае бруд на нашых вачах, памяці і сэрцы, – заўважыў святар. – Але заўсёды ёсць час для пакаяння. Трэба карыстацца гэтым, просячы аб Божай ласцы праз заступніцтва Беззаганнай Маці”.

Пасля Эўхарыстыі моладзь пры дапамозе інтэрнэт-сувязі злучылася на малітве са сваімі равеснікамі са Свіры, Ліды, Навагрудка і Брэста.

На завяршэнне ўдзельнікі “Руху чыстых сэрцаў”, прысутныя на ружанцовай малітве, аднавілі абяцанні жыць у чысціні. Да іх далучыліся яшчэ 8 чалавек, якія таксама прысягнулі весці цнатлівае жыццё.

## Біскуп Антоній Дзям'янка ўзначаліў адпустовую ўрачыстасць у Лідзе

*На св. Імшы ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі сабраліся святары, кансэкраваныя асобы, вернікі, а таксама навучэнцы з Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ім. св. Тамаша Аквінскага ў Пінску.*



Падчас літургіі пробашч парафіі кс. прэлат Вінцэнт Лісоўскі падкрэсліў, што вернікі з асаблівай любоўю ставяцца да Маці Божай, якая шмат гадоў апекуецца імі і вядзе да свайго Сына.

У гаміліі біскуп Дзям'янка звярнуў увагу на тое, што Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца прыкладам для пераймання. Звяртаючыся да бацькоў, іерарх нагадаў пра хрысціянскі абавязак выхавання дзяцей – іх пакліканне. Падкрэсліў, што ў сям'і дзеці павінны рыхтавацца да жыцця ў чысціні і цнатлівасці. “Аднак неабходна, каб Касцёл і дзяржава дапамагалі ў гэтым бацькам”, – заўважыў іерарх.

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч наведаў Гродзенскую абласную клінічную бальніцу

*Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі іерарх сустрэўся з медперсаналам і пацыентамі. Узначаліў св. Імшу ў шпітальнай капліцы, асабліва чынам молячыся за ўсіх хворых і церпячых, у прыватнасці за пацыентаў абласной бальніцы.*



Гамілію падчас св. Імшы прамовіў кс. Генрых Яблоньскі. Святар адзначыў, што Найсвяцейшая Маці яшчэ да свайго з'яўлення на свет была ачышчана Духам Святым. “Марыя праз усё зямное жыццё была вернай Пану Богу, заўсёды згаджалася са святой воляй і старалася быць побач з чалавекам, каб бараніць яго ў цяжкія хвіліны жыцця”, – падкрэсліў кс. Генрых.

На заканчэнне Эўхарыстыі біскуп Кашкевіч падзякаваў урачам і санітарам за штодзённы клопат аб хворых. Пацыентам пажадаў Божага блаславення. Заклікаў іх шукаць падтрымкі ў Пана, які заўсёды дае любоў і ласку. А таксама склаў віншаванні з нагоды імянін сястры назарэтанцы Стэлі, якая з адданасцю служыць хворым, штодзённа наведваючы шпіталі Гродна.

## Дзень валанцёра адзначылі ў “Карытас-Гродна”

*Міжнароднае свята ўжо стала добрай традыцыяй. Гэта дапамагае валанцёрам лепш пазнаць адзін аднаго, падзяліцца вопытам і натхніцца на добрыя ўчынкі.*



Сустрэча пачалася св. Імшой у гродзенскім катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. Падчас Эўхарыстыі, якую цэлебраваў дырэктар гродзенскага “Карытас” кс. д-р Раман Рачко, прысутныя маліліся ў інтэнцыі Дабрачыннага каталіцкага таварыства.

Пасля св. Імшы валанцёры сабраліся разам, каб распавесці сваю гісторыю, звязаную з “Карытас”, падзяліцца ўражаннямі ад дабрачынных акцый і праектаў, у якіх прымаюць удзел.

## Папа Францішак адзначыў 80-годдзе

*Хорхе Марыа Берголіа нарадзіўся 17 снежня 1936 года ў Буэнас Айрэсе як адзін з 5-ці дзяцей у сям'і італьянскага імігранта, працаўніка чыгункі.*



З нагоды круглай гадавіны ў Ватыкане выпусцілі спецыяльную паштоўку з маркай і юбілейнай пячаткай. На ёй адлюстраваны Святы Айцец у жэсце блаславення. Таксама выйшла біяграфія Пантыфіка пад назвай “Францішак. Жыццё і рэвалюцыя”. Яе аўтарам з'яўляецца аргентынская журналістка Элізабэта Піке, якая апісвае прыязнасць, што злучае яе з Папам Рымскім.

Давайце і мы зробім нешта прыемнае для Святога Айца. Падорым яму малітву, аб якой ён просіць з самага пачатку свайго Пантыфікату.

## АНОНСЫ

### КАЛЯДНЫ КАНЦЭРТ ПРОЙДЗЕ Ў ПАБРЫГІЦКІМ КАСЦЁЛЕ

**25 снежня, ва ўрачыстасць Божага Нараджэння, у гродзенскім касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі будзе цэлебравана св. Імша на англійскай мове. Пачатак Эўхарыстыі – у 16.00. Пасля адбудзецца святочны канцэрт, падрыхтаваны студэнтамі з Афрыкі.**

*Сардэчна запрашаем!*

### АПЛАТКАВАЯ СУСТРЭЧА ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПІЛІГРЫМКІ “ГРОДНА – РОСЬ”

**Спатканне адбудзецца ў гродзенскім касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі 26 снежня.**

**Праграма:**
19.00 – св. Імша ў інтэнцыі ахвярадаўцаў і ўдзельнікаў пілігрымкі,
20.00 – дзяленне аплаткай, салодкі пачастунак у дольным касцёле.

У плане сустрэчы калядныя песні і віншаванні са святамі Божага Нараджэння. Запрашаюцца ўдзельнікі пілігрымкі, а таксама тыя, хто хоча імі стаць.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне:*
*(8 029) 784-05-72 – кс. Юрый Марціновіч.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ЖЫЦЦЁВАЙ ДАРОГІ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДЗЕНСКАЙ СЕМІНАРЫІ

**Духоўныя практыкаванні на тэму “Прыйшлі пакланіцца Яму” (Мц 2, 2) будуць трываць з 6 па 8 студзеня 2017 года. Да ўдзелу запрашаюцца юнакі ад 14-ці гадоў. Прысутным прадставіцца магчымасць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, узбагаціць веды адносна праўдаў веры і малітвы.**

*Ахвотным неабходна паведаміць аб сваім жаданні да 3 студзеня. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.*

*Кантактныя тэлефоны:*
*(8 029) 695-24-69 – кс. Валерый Быкоўскі,*
*(8 029) 744-99-61 – кс. Андрэй Лішко,*
*(8 0152) 77-02-34 – семінарыя.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**20 снежня 1992 г.** – кс. Вацлаў Стэфановіч SDB, *праб. Крупава;*
**30 снежня 1997 г.** – кс. д-р Рышард Слівінскі, *праф. Гродзенскай ВДС.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Ад шчырага сэрца

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння ад усяго сэрца жадаю моцнага здароўя, душэўнага супакою, бясконцай радасці з плёну сваёй працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых Божых ласкаў і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны бязмежнай любоўю Бога.

*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці сясцёр дапаможніц чысцовым душам*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Віталію Цыбульскаму і ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння жадаем добрага здароўя, радасці, сіл, моцы Святога Духа, дабрыні і чуласці ад людзей побач, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшым шляхам да Пана. Дзякуем за мудрыя словы, шчырыя малітвы і навуку. Паважаны Ксёндз Біскуп Аляксандр, шчыра ўдзячныя Вам за скіраванне ў нашу парафію ксяндза Віталія. Вясёлых свят!

*Удзячныя вернікі з парафіі св. Казіміра, Уселюб*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай заўсёды хапае сіл, запалу і цярплівасці ў пастырскай паслузе. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і благаслаўлёнай Панам Езусам, нованароджанае Дзіцятка адорвае Вас усімі ласкамі, а міласэрная Маці мае ў сваёй апецы.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку і ўсім Ксяндзам, якія не забываюць нашу парафію,**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, сіл, стойкасці, радасці, натхнення, добразычлівых людзей побач, а таксама шматлікіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці і дароў Святога Духа. Шчасці Божа!

*З малітвай, парафіяне з Мсцібава*

**Паважаным Ксяндзам Рэдактару Юрыю Марціновічу, Яраславу Грынашкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду, Алегу Канановічу і Яну Раманоўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, моцы ў выкананні штодзённых абавязкаў, поспехаў на святарскім шляху і радасці на кожны дзень. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас за добрыя сэрцы і ўсе намаганні, якія Вы ўклалі ў развіццё нашай газеты.

*З павагай, рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет сардэчных пажаданняў: моцнага здароўя, шмат сіл і энергіі, радасных і спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Усемагутны, якому Вы даверыліся, благаслаўляе Вас, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі. Дзякуем за ахвярную працу, шчырыя словы, мудрыя казанні і добрыя справы.

*З павагай і малітвай, удзячныя парафіяне з Дзятлава*

**Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем, радасцю і любоўю, Найсвяцейшая Панна Марыя атуляе мацярынскай апекай, а Дух Святы апраменьвае святлом кожны Ваш дзень. Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за працу ў нашай парафіі, цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца, любоў і цярплівасць да ўсіх нас.

*З малітвай і ўдзячнасцю, верныя парафіяне з Дзятлава, сем'і Іода, Валяк, Лях*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Цыбульскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог благаславіць святарскі шлях, Дух Святы асвеціць яго, а Маці Божая апекуецца Вамі. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы, праца прыносіць задавальненне і добры плён, супакой і надзея напаўняюць сэрца, а ўсмешка і прыхільнасць да людзей стануць натхняльнай сілай і спадарожнічаюць акружаючым. Дзякуем Богу за такога святара, а Вам – за адданую паслугу ў нашым касцёле, духоўныя парады, дапамогу і добрае сэрца. Няхай Ваша праца ў новай парафіі будзе такой жа плённай. Складаем словы шчырай удзячнасці бацькам. Няхай Бог за ўсё аддзячыць.

*Парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Іўі*

**Каханаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб жыццё было напоўнена толькі добрымі падзеямі, а абраны шлях служэння Богу і людзям стаў шырокай дарогай, на якой дзякуючы апецы Маці Божай заўсёды пануе моцны дух міласэрнасці і любові.

*Бацькі*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Станіславу Пацыну, Алегу Канановічу, Валерыю Спірыдону, Клерыкам Андрэю Эйсманту, Эрнэсту і Томашу Мікалайчыкам, Андрэю Струкелю, а таксама дарагім Сёстрам Агнэс і Летыцыі**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай нованароджаны Збаўца, які прыносіць супакой усяму чалавецтву, адорвае Вас сваімі дарамі: моцным здароўем, радасцю і душэўным супакоем, дабрынёй і зычлівасцю людскіх сэрцаў. Памятайце, наша ўдзячная малітва суправаджае Вас штодня. Жадаем радасных свят і шчаслівага Новага года.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Ліды-Фары*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць Вас за дабрыню, чулае сэрца і адданую працу на карысць Богу і людзям, а Панна Марыя нястомна апекуецца. Жадаем бацькам моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця.

*Касцёльны камітэт з парафіі Звеставання НПМ, Міжэрычы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: здароўя, душэўнага супакою, Божага благаслаўлення і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай кожны пражыты дзень прыносіць сілу і радасць для выканання душпастырскай працы. Шчасці Божа!

*Парафіяне са Скрыбаўцаў і Ішчолна*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Імянін, надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем душэўнага супакою і шмат радасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца. Няхай праца прыносіць шчодры плён і яднае людзей у адну Хрыстову аўчарню. Вясёлых свят!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя вернікі, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай разам з нованароджаным Езусам у радасці і любові шчасліва плывуць хвіліны жыцця, а Бэтлеемская зорка заблішчыць ясным праменем у сэрцы. Жадаем шмат здароўя, моцы і сілы. Дзякуем за ахвярную працу, наведванне нашых дамоў у час каляды, супольныя малітвы і прыемныя размовы. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе старанні на карысць нашай парафіі.

*Удзячныя парафіяне і Апостальства дапамогі чысцовым душам з Астрыны*

**Паважаным Айцу Пробашчу Вальдэмару Слоту, Дыякану Андрэю Белаблоцкаму, Сёстрам Антоніі, Іераміі і Наталлі**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці, моцнай веры, надзеі, а таксама добразычлівасці і павагі ад людзей. Няхай нованароджанае Божае Дзіця благаславіць Вашу штодзённасць і напоўніць яе любоўю, якая гарачым полымем распаліць сэрца і сагрэе душу. Вясёлых свят!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі з парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважаны Ксёндз Павел Звяжынскі!**

Віншуем Вас з надыходзячымі святамі Божага Нараджэння і Новага 2017 года. Ад усяго сэрца жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езус, здароўя на доўгія гады жыцця, шчодрых дароў Духа Святога. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуліць Вас да свайго мацярынскага сэрца і ахіне сваёй любоўю і апекай, а наша малітва дадасць патрэбных сіл. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за працу ў парафіі, цярплівасць да нас, мудрыя павучанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца.

*З малітвай і павагай, вернікі з Варнянаў і Вароны*

**Паважаным Ксяндзу Віктару Субелю, Сёстрам Агнешцы і Ганне, кансэкраваным удовам Сабіне і Зоф'і**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем благаслаўлення Божага Дзіцятка, ясных і спакойных дзён, добрага здароўя на доўгія гады. Няхай Збаўца свету засцеражэ Вас ад смутку і турбот, напоўніць сэрца радасцю і надзеяй на лепшае заўтра.

*Парафіяне з Сурвілішкаў, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і Рух Жывога Ружанца з Гіровічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Жэгарыну**

з нагоды Дня нараджэння парысылаем сардэчныя пажаданні. Будзьце святаром паводле Сэрца Езуса. Будзьце мудрым і святым чалавекам. За тое, што Вы абвяшчаеце людзям Божую навуку, што прабачаеце нам ад Яго імя, няхай Хрыстос прытуліць Вас з любоўю. Няхай Ваша жыццё будзе згодным з думкамі і пачуццямі Найсвяцейшага Сэрца Езуса.

*Вернікі з Навагрудка*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Балтрукевічу**

з нагоды Імянін парасылаем мноства сардэчных пажаданняў: апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя для здзяйснення планаў, а таксама добразычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, супакоем і прыносіць шчодры плён.

*Вернікі з Навагрудка*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Жэгарыну, Яну Балтрукевічу, Аляксандру Баклажцу, Аляксандру Сасноўскаму, Віталію Цыбульскаму, Чэславу Ладыку, Дзмітрыю Леўчыку, Алегу Шпеню і шаноўным Сёстрам назарэтанкам**

з нагоды надыходзячых свят Божага нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас, Святы Дух асвятляе і вядзе па Божых сцежках, а Панна Марыя па-мацярынску апекуецца Вамі і вучыць пакоры. Няхай кожны дзень жыцця праходзіць у радасці, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Вернікі з Навагрудка*

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу і Клерыку Аляксандру Жоліку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, святла Святога Духа і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бог благаслаўляе Вас кожны дзень, а Бэтлеемская зорка асвятляе дарогу да Пана.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважаным Айцам Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Паўлу Раманчуку і Яўгену Голубу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай разам з нованароджаным Езусам у радасці і любові шчасліва плывуць хвіліны жыцця, а супакой, як зорка, няхай заблішчыць у сэрцах ясным промнем. Жадаем шмат здароўя, шчасця, супакою і любові. Вясёлых свят!

*Рыцарства Беззаганнай, Адарацыйнае кола з парафіі МБ Анёльскай у Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем штодзённай радасці, шчасця, моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем і любоўю, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца і падтрымлівае ў душпастырскай працы. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае перажываць усе цяжкасці. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова і прыклад шчырай веры. Шчасці Божа!

*Вернікі з вёсак Гінэлі і Салтанішкі, парафія Нача*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем благаслаўлёных, поўных дабрыні і любові дароў, усмешкі і радасці. Няхай Бэтлеемская ноч напоўніць сэрца супакоем і людской зычлівасцю, а Божая моц спадарожнічае Вам на працягу ўсяго жыцця.

*З малітвай, удзячныя парафіянкі з гродзенскай катэдры*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Хрыстос адорыць Вас усімі ласкамі і благаслаўленнем, Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа апекуецца, а Дух Святы спасылае свае шчодрыя дары. Жадаем таксама здароўя, радасці, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы і непахіснай надзеі. Вясёлых свят і шчаслівага Новага года!

*Парафіяне з в. Вердамічы*

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды Дня нараджэння, надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, шчасця, радасці, мудрасці, дароў Святога Духа, сіл у вучобе, цярплівасці, стойкасці і чулых людзей побач. Няхай добры Бог адорыць Цябе сваімі дарамі і благаслаўленнем, дапамагае ў душпастырскай працы, а Маці Божая і святы Заступнік нястомна апекуюцца Табой і чуваюць на працягу ўсяго жыцця.

*Бацькі і брат з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**

з нагоды Дня нараджэння, надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем святла Святога Духа на кожны дзень душпастырскай паслугі, надзеі, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага Валадарства, а таксама шчодрага плёну на ніве Пана. Дзякуем за тое, што вучыце нас любіць Бога і бліжняга, аказваеце падтрымку. І надалей дарыце нам свой час, клопат і веды.

*Моладзь з парафіі Гродна-Аўгустовак*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння жадаем, каб народжанае Дзіцятка Езус благаслаўляла і адорвала Вас сваімі ласкамі. Здароўя на доўгія гады і шчодрых дароў Святога Духа. Дзякуем, што дорыце нам свой клопат і падтрымку, што заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу. Вясёлых свят!

*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом сваёй апекі і абараняе ад злога, каб Вы маглі адважна ісці за Яе Сынам Езусам Хрыстом – найлепшым Пастырам і крыніцай усіх ласкаў.

*Касцёльны камітэт, парафіяльны хор і вернікі з касцёла Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай сонца прыносіць Вам радасць, месяц напаўняе супакоем, а кожная кветка прыгадвае пра дабрыню Бога. Здароўя на 100 гадоў і больш! Няхай Бэтлеемская зорка, якая свеціць у змроку, прывядзе Вас да шчасця ў надыходзячым Новым годзе.

*Удзячныя парафіяне з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю, Сястры Ганне і Арганістцы Ганне**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя шчырыя пажаданні моцнага здароўя, шмат сіл і цярплівасці, нязгаснага запалу ў працы на ніве Пана, благаслаўлення ад Дзіцятка Езус і нястомнай апекі Яго Маці Марыі на кожны дзень жыцця. Няхай Вашы сэрцы будуць заўсёды адкрытыя на людзей і нясуць цяпло і дабрыню. Няхай новы год будзе спрыяльным ва ўсіх добрых задумах і справах. Шчасця і радасці ў святочныя дні!

*Вернікі з капліцы Ліпічна*

**Шаноўным Сёстрам Юліце Пятровай і Марыі Сакалоўскай**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Маці, Божай міласэрнасці, аптымізму, цярплівасці і душэўнага супакою. 100 гадоў!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Усім членам Францішканскага ордэна свецкіх і Кола Жывога Ружанца, Міністрантам і Закрыстыянам**

шчыра жадаю здаровых, радасных свят Божага Нараджэння, усялякіх поспехаў, шмат здароўя і бласлаўлення ад Дзіцятка Езус, а таксама шчаслівага Новага года.

*Алена, парафія Тэалін*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Марціновічу, Прэлату Вітольду Лазавіцкаму, Каноніку Юзафу Ганьчыцу, Аляксандру Севасцьяновічу, Валерыю Быкоўскаму, Генрыху Яблоньскаму, Раману Рачко, Айцам Казіміру Енджэйчаку, Антонію Пажэцкаму і Аляксею Рамановічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года жадаем здароўя на доўгія гады і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай народжанае Божае Дзіця бласлаўляе і адорвае Вас сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця.

*Апостальства "Маргарытка"*

**Шаноўным Сёстрам Гарэцці Мількевіч, Эўхарыі Хульбуй, Паўле Радзівілка, Юліце Пятровай, Леоніі Майтшак, а таксама ўсім Ксяндзам, Сёстрам і Вернікам**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні Божага бласлаўлення, моцнага здароўя, духоўнага супакою, поспехаў і заступніцтва Маці Божай на кожны дзень.

*Францішканскі ордэн свецкіх, Колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Эліясу-Анатоліусу Маркаўскасу**

з нагоды 50-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай, людской добразычлівасці і багабойных парафіян. Няхай Ваш шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны, а выконваемая праца прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён. Сардэчна дзякуем за паслугу ў нашай парафіі і добрае слова для кожнага. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі.

*Удзячныя парафіяне з в. Падзітва, парафія Пеляса*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці. Няхай Маці Божая Міласэрная клапоціцца пра Вас і напаўняе супакоем. Дзякуем, што адведваеце хворых, перадаеце веру нашым дзецям і ўнукам, знаходзіцеся побач у хвіліны радасці і смутку. Вельмі ўдзячныя Богу, што паслаў нам Вас.

*Кола Святога Ружанца з Больцішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага 2017 года ад усяго сэрца жадаем бласлаўлення Дзіцятка Езус, спакойнай душпастырскай працы, добрых людзей на жыццёвай дарозе, як мага больш сонечных дзён. Дзякуем за плённую працу, навуку і апеку над парафіянамі.

*З малітвай, вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя шчырыя пажаданні: бласлаўлення Дзіцятка Езус, нястомнай апекі Марыі Панны і людской зычлівасці на жыццёвай дарозе. Ад усяго сэрца дзякуем за ахвярную працу, добрае сэрца, мудрыя словы і добразычлівасць. Няхай любоў, якая адкрылася ў Езусе Хрысце, напаўняе ўсіх нас і дапамагае з даверам да Творцы ўвайсці ў Новы 2017 год.

*Вернікі з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, доўгіх святарскіх гадоў. Няхай Езус Хрыстус і Яго Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуюцца, ахінаюць цеплынёй сваіх сэрцаў, а побач будуць зычлівыя людзі. Дзякуем за малітву, навуку, добрыя словы. Няхай з Вашага твару ніколі не знікае ўсмешка. Шчасці Божа!

*З малітвай, парафіяне з в. Каменка*

**Паважаным Ксяндзам Здзіславу Вэдэру, Аляксандру Вараб'ёву, Віталію Цыбульскаму і Юрыю Ёдзіку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, здзяйснення мар, спакойных дзён. Няхай жыццё будзе сонечным, радасным і шчаслівым. Няхай добры Бог асвеціць сваёй ласкай Ваш зямны шлях, а Маці Божая ахіне плашчом мацярынскай апекі.

*Былыя парафіяне са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Дзянісу Бразінскаму і Артуру Валчкевічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем усяго самага найлепшага: добрага здароўя на доўгія гады жыцця, моцнай веры, надзеі і любові на кожны дзень, нястомнай радасці і супакою ў сэрцы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да Пана, а маленькі Езус бласлаўляе і шчодра адорвае сваімі дарамі. Шчасці Божа!

*Апостальскі рух "Маргарытка" са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Мыслюку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчодрых ласкаў Святога Духа. Няхай Бог Вамі апекуецца на працягу ўсяго жыцця і абараняе ад зла. Няхай супакой і радасць назаўсёды паселяцца ў сэрцы, усмешка ніколі не знікае з твару, а побач будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Парафіяне з в. Шэмбелеўцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў, поспехаў у душпастырскай працы, шмат добразычлівых людзей навокал і нястомнасці ў абвяшчэнні Божага слова на ніве Пана. Вясёлых свят!

*Вернікі з вёсак Скярсі, Вялікае Сяло і Зенюкі*

**Паважаным Ксяндзам Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму і Паўлу Урбану**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб народжанае Божае Дзіця бласлаўляла Вас і адорвала сваімі ласкамі. Жадаем здароўя на доўгія гады і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі кожны дзень. Шчасці Божа!

*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважаным Айцу Юрыю Саковічу і Дыякану Ануфрыю Альховіку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем шчырыя віншаванні, спалучаныя з малітвай: здароўя, сілы, стойкасці, мудрасці. Няхай нованароджаны Збаўца, які пасылае супакой свету, шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі: любоўю, надзеяй і душэўным супакоем. А Маці Божая няхай заўсёды апекуецца Вамі. Шчасці Божа!

*З малітвай і ўдзячнасцю, парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Вэдэру і Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем мноства сардэчных пажаданняў: здароўя, поспехаў, сіл, радасці, апекі Маці Божай і ўсіх дароў Святога Духа. Няхай нованароджаны Езус адорыць Вас шчасцем і бласлаўленнем. Вясёлых свят!

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

жадаем радасных і пагодлівых свят Божага Нараджэння, мноства шчаслівых хвілін і ўсялякіх поспехаў у Новым годзе. Няхай добры Бог чувае над Вамі і мае ў сваёй апецы, а Маці Божая ахінае плашчом мацярынскай дабрыні. Шчасці Божа!

*Ружанцовае кола і парафіяне з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Віталію Сярко, Яну Асіповічу і Віталію Слуку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя віншаванні. Няхай Дзіцятка Езус бласлаўляе Вас у святарскай працы, надзяляе моцай і мужнасцю, а Маці Божая асвеціць жыццёвы шлях і заўсёды трывае ў сваёй апецы. Нізкі паклон за клопат аб верніках, увагу, цярплівасць і мудрыя павучанні. Аддзяч Вам Божа.

*З малітвай і любоўю, парафіяне і Біблійнае кола з парафіі св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне*

**Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Жадаем, каб нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адарыў Вас сваімі дарамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Блаславі Божа!

*З малітвай, былыя парафіяне з Варнянаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, здзяйснення мар, спакойных дзён у душпастырскай паслузе. Няхай кожная хвіліна будзе бласлаўлёнай, радаснай і шчаслівай. Няхай добры Бог асвячае сваімі ласкамі Ваш зямны шлях, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай любові і заўсёды Вамі апекуецца.

*З малітвай і ўдзячнасцю, Ружанцовае Кола НПМ Чанстахоўскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Эдуарду Сінкевічу, Аляксандру Фядотаву**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай народжаны маленькі Езус шчодра адорыць Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем і душэўным супакоем. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя няспынна Вамі апекуецца на святарскім шляху, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом. Дзякуем за Божае слова, добрае сэрца і малітву.

*З павагай, Легіён Марыі і Малітоўная група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Андрэю Радзевічу, Яну Раманоўскаму і Паўлу Беланосу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем мноства ласкаў ад нованароджанага Дзіцятка Езус, здароўя і поспехаў, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень жыцця і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Бэтлеемская ноч напоўніць сэрца супакоем і радасцю, а Божая моц спадарожнічае на працягу ўсяго жыцця. Шчасці Божа!

*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і ўдзячныя парафіяне з Радуні*

**Паважаным Ксяндзам Віталію Сідорку, Мікалаю Ціхановічу і Андрэю Радзевічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай гэтая вялікая таямніца Любові яшчэ мацней злучыць Вас з Езусам, напоўніць надзеяй, прынясе шмат радасці і святла ў жыцці. Жадаем Божага бласлаўлення і няспыннай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень надыходзячага года.

*Душпастырства службы аховы здароўя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення, няспыннай апекі Маці Божай Кангрэгацкай на кожны дзень надыходзячага года. Няхай таямніца Раства напоўніць Вас надзеяй і радасцю, узбагаціць любоўю, умацуе веру, а Бэтлеемская зорка асветліць шлях да Бога.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, лепшага заўтра, унутранага супакою, сапраўдных сяброў, людской зычлівасці, больш адвагі ў выказванні ўласнай думкі. Будзьце самім сабой! Няхай Бэтлеемская зорка асвятляе Ваш шлях. Цёплых і радасных свят і Божага бласлаўлення ў Новым 2017 годзе!

*Колы Жывога Ружанца МБ Каралевы Супакою і МБ Кангрэгацкай, парафія Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем шчырыя пажаданні, спалучаныя з малітвай: моцнага здароўя, сілы, надзеі. Няхай маленькі Езус адорыць Вас ласкамі і бласлаўленнем, Маці Божая ахіне плашчом мацярынскай апекі, а Святы Дух шчодра адорыць сваімі ласкамі. Выпрошваем у Бога, каб промні Яго міласэрнасці асвячалі Ваш святарскі шлях.

*З малітвай, удзячныя парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ у Трабах*

**Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Леону Лішыку**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года складаем сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджаны Езус заўсёды валадарыць у сэрцы, дадаючы сіл для служэння Богу і людзям. Няхай здароўе, радасць, супакой, любоў і людская зычлівасць заўсёды Вам спадарожнічаюць, а Маці Міласэрнасці ахінае сваёй апекай і асцерагае ад зла.

*Парафіяне з в. Гледнявічы, Юзэфа і Ядзвіга*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаю сардэчныя пажаданні здароўя, сіл, цярплівасці, нястомнай надзеі, нязгаснага запалу да працы і шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езус. Няхай Ваша праца прыносіць шчодры плён і яднае людзей у адной Хрыстовай аўчарні.

*Здзіслаў са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму, Алегу Каралёву, Аляксандру Пятровічу, Клерыку Юрыю Пашкаўцу, Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Дар'і Еўтухоўскай і Вераніцы Огар**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, радасць – бясконцай, мары і планы рэалізуюцца, а побач будуць зычлівыя людзі. Супакой як Бэтлеемская зорка няхай заяснее ў сэрцы і напоўніць яго дабрынёй. Няхай Маці Божая ахіне Вас сваёй любоўю і апекай, а маленькі Езус блаславіць і шчодра адорыць сваімі ласкамі.

*Моладзь, дзеці, міністранты, закрыстыянін Здзіслаў, удзячныя парафіяне са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, радасных дзён, людской зычлівасці. Няхай Дзіцятка Езус бласлаўляе Вас і адорвае сваімі дарамі, Найсвяцейшая Маці апекуецца, а Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.

*Ружанцовыя колы і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем шчырыя пажаданні, словы ўдзячнасці, павагі і прызнання. Жадаем здароўя, душэўнага супакою, дароў Хрыста, апекі Маці Божай. Няхай Бог штодзённа дадае сіл, аптымізму і надзеі, а Анёл-ахоўнік заўсёды аберагае.

*Сям'я Касцюшка*

**Паважанаму Ксяндзу Люцыяну Дамброўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Імянін ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, душэўнага супакою, радасці і назгаснага запалу ў сэрцы. Няхай Езус Хрыстус, якога штодзённа трымаеце ў святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая Барунская ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць паслугу. Дзякуем за шчырыя малітвы, прыклад набожнасці і клопат аб нашай святыні і парафіянах.

*Вернікі з Барунскай парафіі*

**Паважаным Айцам Мар'яну Хаменю і Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, радасці, сіл на кожны дзень душпастырскай паслугі, людской зычлівасці, бласлаўлення ад Дзіцятка Езус і апекі Святой Сям'і. Няхай міласэрны Бог асвячае святарскае жыццё і чувае над Вамі.

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Паўлюкевічу**

з нагоды надыходзячых свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб радасць ад прыходу на свет Езуса напаўняла жыццё. Добрага Вам здароўя, энергіі для рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, задавальнення ў душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вам спадарожнічае, атуляе мацярынскай любоўю, супакойваючы ўсе трывогі і боль. Маленькі Езус няхай трымае Вас пры сваім сэрцы і адорвае бласлаўленнем, усімі патрэбнымі ласкамі, а Дух Святы заўсёды будзе шчодры на свае дары. Заставайцеся святлом для верных! Дзякуем за павагу і цярплівасць, а Пану Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Парафіяне з касцёла свсв. апап. Пятра і Паўла ў Граўжышках*

Родным і блізкім **с.п. ксяндза Людвіка Станішэўскага** перасылаем словы шчырага спачування і жалю. Яднаемся з Вамі ў малітве за супакой яго душы.

*Парафіяне з Гнезна*

• працяг віншаванняў у наступным нумары

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6030 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная